www.nv-online.info

№ 36 (4185)

10 мая 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Падпісацца на «Народную Волю» можна ў любы дзень у любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку».**

# Беларусь адсвяткавала Дзень Перамогі!




**СКАЗАНА!**

Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

*– З нашай зямлі ніколі не зыходзіла і не будзе зыходзіць агрэсія. Мы даказалі ўсім, што Беларусь – мірная і прыязная краіна. Але гэта не значыць, што яна не можа за сябе пастаяць. Так, чужога нам не трэба, але і свайго мы не аддамо. Так навучылі нас нашы гераічныя продкі, і мы будзем верныя іх святому запавету.*







## Дзе гэта бачна…

У Магілёве шэсце прайшло пад савецкімі і расійскімі сцягамі, сталінскімі партрэтамі, з георгіеўскімі і чырвона-зялёнымі стужкамі…

**СТОП-КАДР**




**У дзень заканчэння Другой сусветнай вайны ў Еўропе на Вайсковых могілках Мінска адбылася традыцыйная акцыя ўшанавання памяці воінаў.**
**Разам з лідарам Беларускага нацыянальнага кангрэса Мікалаем Статкевічам бралі ўдзел каля 30 прадстаўнікоў дэмакратычнай апазіцыі.**

**ЛЁС ЧАЛАВЕКА**




## 18 гадоў без Юрыя Захаранкі

Экс-міністр унутраных спраў генерал Юрый Захаранка, які быў у апазіцыі да існуючай ўлады, знік 7 мая 1999 года, калі вяртаўся дахаты. Увесь гэты час яго лёс хвалюе шырокую грамадскасць Беларусі. Як, дарэчы, і лёс былога старшыні ЦВК Віктара Ганчара, бізнесмена Анатоля Красоўскага, тэлеапeратара Дзмітрыя Завадскага.

Міжнародная дэмакратычная супольнасць лічыць, што да знікнення Юрыя Захаранкі і іншых вядомых асоб маюць дачыненне былы камандзір спецназа ўнутраных войска Дзмітрый Паўлічэнка, тагачасны дзяржсакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман, экс-міністр унутраных спраў Юрый Сівакоў.

**РАЗВІТАННЕ**

## Бывай, Мікола Якаўлевіч…

Сёння, 10 мая, у 10.30 у рытуальнай зале так званай лечкамісіі (Мінск, вуліца Чырвонаармейская, 10) адбудзецца развітанне з Міколам Аўрамчыкам.

8 мая ў Мінску пасля цяжкай працяглай хваробы памёр найстарэйшы сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, паэт Мікола Аўрамчык. Яму было 97 гадоў.

Ён нарадзіўся 14 студзеня 1920 года ў Плёсах Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і.

У 1938 годзе паступіў на філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута, адначасова працаваў у рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі», пазнаёміўся з Янкам Купалам, Кузьмой Чорным, Алесем Салаўём, пра якіх пакінуў успаміны.

Мікола Аўрамчык быў ветэранам Другой сусветнай, удзельнічаў у баях на Паўночна-Заходнім і Волхаўскім франтах. У чэрвені 1942 года трапіў у акружэнне і ў палон да іспанцаў, пасля немцамі быў вывезены ў Рур на каменнавугальныя шахты. У красавіку 1945 года вызвалены англічанамі.

Пасля вайны працаваў на аднаўленні Данбаса. Скончыў філалагічны факультэт БДУ (1949). Працаваў у рэдакцыях газет «Чырвоная змена», «Літаратура і мастацтва», у часопісе «Полымя», у 1953–1980 – рэдактар аддзелу паэзіі часопіса «Маладосць». Член Саюза пісьменнікаў з 1947 года.



Аўтар кніг паэзіі «Пярэдні край» (1949), «Шляхамі дружбы» (1952), «Ключы жураўліныя» (1960), «Сустрэча былых канагонаў» (1963), «Універсітэцкі гарадок» (1967), «Агледзіны» (1969), «Як на далоні» (1970), «Дрэва дружбы» (1973), «Вадовішча» (1976), «У падзямеллі» (раман, 1986), «Анкета: Выбранае» (1990), зборніка вершаў для дзяцей «Дружба» (1950).

Аўтар кнігі успамінаў «Знаёмыя постаці» (2004), прысвечанай беларускім дзеячам.

Мікола Якаўлевіч быў узнагароджаны ордэнамі «Знак Пашаны», Айчыннай вайны II ступені і медалямі. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1964) за зборнік «Сустрэча былых канагонаў».

## Тушы вайну!

*Душу як токам скаланае,*
*Калі прыпомню аб вайне.*
*Глядзяць з журбою слёзна вочы,*
*Дзяцей вайны, іх лёс сірочы.*

*Мае калоціць сэрца грудзі,*
*Вас што, пакінуў розум, людзі?*
*Чаму вайна ўсё хоча смерці?*
*Чаму не можа смерць памерці?*

*Нясуць ваенныя траншэі*
*Жанок і дзетак галашэнні,*
*Бо для снарада, што з гарматы,*
*Дзядуля, бацька, сын – салдаты.*

*Запэцкала вайна ўсё сажай.*
*Пытаю Бога: "Хто адкажа?"*
*Людзей вайны галосяць вочы.*
*Зямля з арбіты можа збочыць.*

*З партрэта дзеда чую словы:*
*– Закуйце вы вайну ў аковы.*
*Ці хопіць у зямелькі сіл?*
*Нялічана на ёй магіл.*

*Дымоў вайны адчулі горыч,*
*За мір стаяць давайце поруч.*
*Вайна салдату часта сніцца.*
*Тушы, тапчы, бо разгарыцца!*

**Мікалай ІВАНОЎСКІ.**

*Вёска Пачуйкі*
*Ваўкавыскага раёна.*

**КРЫМІНАЛ**

## За ўрэзку ў трубаправод – на 7 гадоў у турму

Такое пакаранне напрыканцы мінулага тыдня вынес суд Фрунзенскага раёна Мінска былому начальніку крымінальнай міліцыі Міёрскага райаддзела ўнутраных спраў **Сяргею Кісляку.**

Усяго на лаўцы падсудных апынуліся 12 жыхароў Віцебскай вобласці, якія, паводле следства, урэзаліся ў трубаправод і выкралі 80 тон дызельнага паліва. Суд пазбавіў іх волі на тэрмін ад трох з паловай да адзінаццаці гадоў. Найвышэйшае пакаранне вынесена арганізатару злачыннай групы **Віктару Шылінскаму.**

Прысуд не набыў законную сілу і яшчэ можа быць абскарджаны.

**Раіса ПЫЖКОВА.**

**НА СУВЯЗІ ПАРЫЖ**

## Эмануэль МАКРОН: «Я – першы!»

Афіцыйны сайт МУС Францыі апублікаваў канчатковыя вынікі другога тура прэзідэнцкіх выбараў, праведзенага ў краіне 7 мая. Пасля апрацоўкі 100 працэнтаў бюлетэняў рэзультат пераможцы – лідара руху «Наперад» Эмануэля Макрона – склаў 66,1 працэнта галасоў выбаршчыкаў. Макрона падтрымалі больш за 20,7 млн чалавек, якія прыйшлі на выбарчыя ўчасткі.

За кандыдата ад партыі «Нацыянальны фронт» Марын Ле Пэн прагаласавалі больш за 10,6 млн грамадзян Францыі (33,9 працэнта). У галасаванні прынялі ўдзел больш за 35,4 млн выбаршчыкаў. Вынікі выбараў павінен зацвердзіць Канстытуцыйны савет у бліжэйшы час.




**ТОЧКА ЗРЕНИЯ**



Александр ФЕДУТА

## Рядом с ними

Мы жили рядом с фронтовиками. В буквальном смысле – рядом с ними.

Соседом по лестничной площадке в доме №3 по улице Мира в Гродно у нас был подполковник в отставке Алексей Леонидович Потанин. Девятого мая в парадном мундире с орденами он шел по улицам города. В руках был букет цветов. С ним здоровались, его поздравляли. Рядом шла Валентина Ивановна, его жена, удивительно добрая и домашняя. Они были счастливы – и особенно счастливы были в этот день. Для Потаниных война закончилась навсегда.

Когда я выходил на балкон, то здоровался. Соседний балкон – из третьего подъезда – пустовал редко. Обычно на нем сидел на стуле Михаил Михайлович Сироткин. Он был без ног, на протезах. Он казался уже совсем старым – да, наверное, старым, в отличие от подполковника Потанина, он и был. Не помню, зимой он был в куртке или ватнике, но летом, когда было еще не слишком жарко, он сидел в пиджаке. Обычном асфальтного цвета пиджаке. Менял он его два раза в году – девятого мая и двадцать второго июня. На этом, торжественно черном, пиджаке были орденские колодки. Немного – всего три планки. До времени, когда ордена стали давать «потом», Сироткин не дожил – вернее я не помню, дожил ли он.

В книжном киоске, стоявшем на улице Гагарина, торговала книгами Надежда Ефимовна Шадрина. Иногда она надевала жилетку, на которой тоже было несколько колодок. Она была фронтовой медсестрой, а ее муж, Владимир Ефимович, был, кажется, лейтенантом. Надежда Ефимовна была книгочейкой, потому нам было, о чем поговорить. Она откладывала для меня самые «дефицитные» по тем временам книги, и мы болтали – много болтали. Она и сама умудрилась вместе с сестрой выпустить какую-то книгу по домоводству, вышедшую даже несколькими изданиями. Кажется, книга та переиздавалась еще совсем недавно: я видел ее выходные данные в интернете. Книги живут даже тогда, когда их авторов нет.

Директор нашей школы Василий Петрович Сукристик воевал, это мы знали точно. Он создал при школе музей генерала Карбышева, и сюда съезжались гости со всего Советского Союза: Карбышева уважали за стойкость и мужество. Василий Петрович никогда не критиковал власть, но мне кажется, что героя для школы он выбрал «по контрасту» – чтобы уж точно заслуживал уважения. Он и сам был на него похож, на Карбышева, особенно когда в праздники его серо-голубой костюм, напоминавший генеральский мундир нашего героя, украшали фронтовые награды. В будние дни, если приходилось участвовать в комсомольских собраниях или сборах дружины, Василий Петрович надевал планки.

Фронтовики учили нас в университете. Они были очень разными, могли не разговаривать друг с другом, публично спорить. Но девятого мая они были едины. Их объединяла война. Семен Александрович Григорьев, Гурген Амирханович Мартиросов, Яков Исаакович Будовский, Николай Остапович Минайлов, Екатерина Васильевна Осокина, Василий Павлович Козлов, Леонид Александрович Линев, Николай Александрович Мельников, Панфил Васильевич Панфилов, Василий Михайлович Никитевич. Те, кого помню я.

Когда сегодня я читаю в интернете, в газетах, на телеэкране слова «Спасибо деду за победу!», мне становится стыдно. Деда своего я никогда не видел, и даже фотография его сохранилась лишь одна – довоенная. Он исчез в первые дни Второй мировой войны. Не Отечественной – Мировой. Но еще больше мне становится стыдно перед теми фронтовиками, рядом с которыми я жил. Мне всегда казалось, что я не успел расспросить их о чем-то очень важном. Не только для меня важном – для всех нас. Мальчишкой я ходил, разговаривал с ветеранами, собирал у них воспоминания. Каждый год приходили к моим соседям – по дому, по улице, по микрорайону – новые мальчишки и девчонки, записывали их воспоминания. Они поили нас чаем и терпеливо повторяли одно и то же. Они знали, зачем нужно это. Они оставались собой, а мальчишки и девчонки менялись. Но мне кажется, что записанные очень плохо, непрофессионально (термина такого, как «устная история», не существовало еще) эти воспоминания исчезли навсегда, растаяв в нашей памяти. Вернее, поглощенные нашим беспамятством. И вот за это мне стыдно до сих пор.

А с бежавшим из концлагеря Штутгоф и ушедшим в партизанский отряд Алексеем Никифоровичем Карпюком я так и не успел поговорить. Он жил не в нашем микрорайоне, и поэтому в его доме я побывал только через много лет после его смерти. В Гродно нет мемориальной доски его памяти. Как нет и мемориальных досок памяти других писателей-фронтовиков, связанных с моим родным городом.

Мне кажется, Карпюк, знавший цену слову, не одобрил бы фразу «Спасибо деду за победу!». Не деды побеждали. Побеждали молодые мальчишки – рядовые и лейтенанты. У них были разные судьбы. Побеждал Коля Мельников, сын раскулаченного, свою награду получивший уже на исходе войны. Побеждал военный разведчик и переводчик Семен Григорьев, вынужденный работать в немецком штабе, чтобы передавать сведения нашим. Побеждал сам Алексей Карпюк, на военной фотографии которого я увидел недавно тот же упрямый чуб и пронзительный взгляд борца за правду.

И побеждал Михаил Михайлович Сироткин. Миша Сироткин, лишенный двух ног и получивший от советской власти квартиру на четвертом этаже в доме без лифта, с высокими, как мне казалось – и как, наверное, казалось ему – бесконечными лестницами. Он прошел через войну, победил Гитлера, но победить лестничные проемы ему было уже не под силу. И мы здоровались с ним, стоя на соседних балконах.

Спасибо им всем.

Спасибо за то, что они дали нам возможность жить рядом с ними.

ЖИЗНЬ КАК ОНА ЕСТЬ

# Шёпоты и крики Виктора Козлова



*Когда в независимые профсоюзы устремится трудящийся народ?*

Слава профсоюзного активиста из Гомеля Виктора Козлова, пожалуй, с анекдотичным оттенком. Его, говорящего слабым сиплым голосом из-за сложной операции на легких, в результате которой была, к сожалению, повреждена гортань, оштрафовали недавно… за громкую нецензурную брань в общественном месте. Это было ранним мартовским утром на пустынной улице в деревне Терешковичи. А если бы и ругнулся, кто это услышал бы, кроме ОМОНа, подъехавшего к Виктору Владимировичу? Чей слух в утренней дреме на селе это могло оскорбить?

Но тогда перед Днем Воли в стране повсеместно шли «ковровые» посадки многих участников несанкционированных февральских «Маршей нетунеядцев». Вот и Козлова, представителя независимых профсоюзов радиоэлектронной промышленности по Гомельской области, забрали, судили, оштрафовали. Сей факт разошелся по многим СМИ. Как рассказывал мне сам Виктор Владимирович, смущены были омоновцы, дававшие показания в суде, качал головой, читая дело, судья. Но тем не менее три базовые величины штрафа и два дня в каталажке Виктор Козлов получил.

А разговаривали мы с ним накануне Первомая. Виктор Александрович смотрел уже в будущее, а про свое задержание рассказывал даже с юмором.

– Это было в 8.30 утра. Я приехал из Гомеля в Терешковичи, встретил знакомого, говорю ему: «Кидай курить, а то заработаешь болячку, как у меня…» А у меня рак именно из-за курения, мне вырезали верхнюю часть левого легкого. После операции я громко говорить не могу, а если пытаюсь повысить голос, он вообще исчезает. Тут подъезжает «уазик», как в народе говорят, «козел». Меня разворачивают на 180 градусов: «Фамилия?» – «Козлов». И в машину. Мой знакомец потом всем рассказывал: «Слышали? Козла на «козле» увезли!»

**– Ну вот, прославились. Работаете в профсоюзах всю жизнь, но побывать в изоляторе пришлось впервые?**

– Впервые. Раньше бывали только штрафы – в 2010-м, например, накануне президентских выборов. Я раздавал листовки, и меня оштрафовали на 20 базовых, потом высчитывали из пенсии. Немалая сумма – 700 тысяч рублей.

**– Надеюсь, вам товарищи помогли выплатить штраф?**

– Я в те дни работал от кампании «Говори правду!». Отдал документы о штрафе Андрею Дмитриеву, бумаги вернулись через пару месяцев грязными и помятыми, будто на них пили чай. Потом отдал документы в правозащитный центр «Весна» – он мне и компенсировал. А «Говори правду!» заволынили, ничего не дали.

**– А какие условия в изоляторе временного содержания, где вы находились? Кормили прилично?**

– Я человек невредный, непереборчивый. Мне показалось, что в изоляторе нормальная, хорошая еда. Да и попоститься было тоже полезно. Первое – рыбный суп из скумбрии, и видно было, что рыба там точно есть. Если каша, то не жалеючи. Если кисель, то полная кружка. Хлеба за сутки три четверти буханки. Один раз за два дня была котлета свиная, правда, холодная. Зато в теплом супе. Сидело нас в камере трое. Нехолодно. Майор на приеме все качал головой, когда читал мое дело.

**– А до этого ваш профсоюз работал все эти годы без острых конфликтов с законом. Это хорошо?**

– Если идти сознательно на конфликт, то его всегда найти можно, и так и будут к вам относиться: «Склочник!» А если действуешь в рамках закона, то тебя наоборот уважают.

**– Как вы считаете, когда власть не дает санкцию на мероприятие, стоит нарушать, твердо идти против?**

– Иногда стоит. Если мероприятие – инициатива не узкой партийной элиты, а народ, низы сами поднимаются, тогда можно их повести, невзирая на запреты. Вот 19 февраля поднялись низы. Накануне мы с активистом Александром Владимировичем Кацорой так рассуждали: если будет 300 человек, то нечего и огород городить. А вот соберется 3 тысячи, можно и пойти. Оно так и случилось. К 12 часов вся площадь Восстания в Гомеле заполнилась народом. Пошли по улице Советской, достойно, по тротуару, на каждом красном светофоре останавливались. Колонна большая, метров 800. Машины ехали и сигналили нам, это поднимало тонус. Люди выходили из дворов посмотреть на демонстрацию. Провокаторов не было. Кричали речевки… Народная волна имеет право быть!

**– Главная борьба профсоюзов – за наше право на труд. Какая сейчас ситуация на рынке труда в Гомеле?**

– Надо смотреть в корень: есть видимость временной занятости. Тех, кто стоит на бирже труда, приглашают красить заборы в городе, убирать улицы. Временная работа! Сегодня заработал – завтра проел. Да и на серьезных градообразующих предприятиях положение неважное. Недавно пришли ребята, наладчики станков ЧПУ, написали заявление на вступление в организацию. Они рассказали о ситуации в своем цеху, на участке: шаг вправо, шаг влево – уволен, поэтому у всех рот на замке. А зарплата между тем скатилась сейчас на 40–50 процентов. То есть работодатель ставит работника в такое униженное положение: или соглашаешься на мои условия, или не имеешь ничего. Мы дали им наши профсоюзные буклеты: какие достижения за прошлый год. Правда, с тех пор от них ни слуху ни духу. Пропали.

**– Наверное, у капиталистов на производстве точно так же жестко с дисциплиной, а?**

– У капиталистов всегда под боком работает сильная организация профсоюзная, с которой нельзя не считаться.

**– А когда независимые профсоюзы окрепнут и у нас? Вот сколько человек в вашей независимой организации?**

– В Гомельском представительстве со всеми семью независимыми профсоюзными районными организациями 470 человек: из Калинковичей, Мозыря, Жлобина, Рогачева, Светлогорска, Буда-Кошелева, из Речицы (там 2 организации: заводская и территориальная), из Добруша и Гомеля.

**– Как переломить ситуацию в вашу пользу?**

– Трудно сказать.

**– Выходит, не поддерживают вас широкие массы? Потому власть с вами и не считается. Что делать с массами?**

– Масса – она и есть масса. Определю ее, может быть, вульгарно, но точно: амеба обыкновенная бесхребетная. На кухне они все революционеры. А говоришь: «Жалуетесь на судьбинушку, которую уготовило вам государство (оно ведь главный наниматель)? А что делать конкретно? Хотите выйти на площадь? Хорошо, я выйду с вами. Только чтобы было вас хотя бы человек десять. Но обязательно позвоните накануне, в субботу, что вы придете в воскресенье к 12 часам к памятнику. И я приду с речевками, растяжками. Готов отсидеть 10 суток, только придите». Не пришли... Правда, имели мужество позвонить и сказать, что согласились только два человека. «Ну так что? – говорю. – Идем?» Нет…

**– Значит, не клюнул петух рабочего человека, как вы думаете?**

– Выходит, не клюнул… Это не 1991 год, когда обвал цен в два раза и когда в Гомеле все бурлило…

**– Но все-таки в независимый профсоюз люди обращаются за помощью?**

– Обращаются. Особенно продавцы магазинов самообслуживания. Там большие недостачи из-за воровства и порчи, а убытки, как правило, высчитываются из зарплаты работников. Те бегут к нам. Мы помогаем людям через суд добиваться снижения штрафов: если есть у человека кредит на квартиру или учебу, если есть дети… И так, глядишь, уменьшаем их штраф, порой на 40 процентов. Конечно, мы всегда предлагаем человеку прежде всего вступить в нашу организацию: иначе как официально представлять интересы гражданина в суде? «Пишите заявление!»

**– Люди вступают, платят первоначальный взнос, вы защищаете их, и – до свидания, адью, больше вы их не видите. Правильно?**

– Звонишь через два месяца, чтобы напомнить о членских взносах, а твой телефон уже в черном списке. Абонент недоступен.

**– Но жизнь ведь снова заставит его выучить этот урок!**

– Да, некоторые снова возвращаются. Но как же так, дорогая, ты ж не платила взносы?!. Мы уже тебе не поможем… Если только кто-то походатайствует, что берет за вас ответственность, что вы будете настоящим членом профсоюза, а не мнимым.

**– Как же переломить ситуацию, чтобы люди доверили вашему профсоюзу свои проблемы?**

– Когда будет еще хуже, тогда сработает пусковой механизм, и рабочие обратятся к профсоюзам. Но власть, конечно, старается этого не допустить, не доводить экономическую ситуацию до взрыва.

**– Что, согласитесь, в наших общих интересах.**

– Да, у нас люди *памяркоўныя.* Но если разбудить, то мало не покажется.

**Елена МОЛОЧКО.**

*Гомель.*

ЛЁС ЧАЛАВЕКА

# Генадзь Цярэня вучыць моладзь і піша кніжкі

*У свой час Генадзь Цярэня быў даволі прыкметным дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Ён узначальваў камісію па эканамічных рэформах. Пасля роспуску Вярхоўнага Савета актыўна ўдзельнічаў у апазіцыйных мітынгах, займаў прынцыповую пазіцыю. Але вось ужо гадоў дзесяць аб ім нічога не чуваць. "Народная Воля" пацікавілася лёсам намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання.*

Як аказалася, палкоўнік міліцыі ў адстаўцы Генадзь Цярэня ўжо сем гадоў выкладае ў Мінскім дзяржаўным прафесійна-тэхнічным каледжы паліграфіі імя В.Харужай. І ўзначальвае ветэранскую арганізацыю ГУБЭЗ МУС.

А яшчэ Генадзь Цярэня піша кніжкі. Праўда, не мемуары. У гэтым годзе павінна выйсці яго кніга «Эканоміка ў цені».

*«Мне здаецца, сёння нам вельмі не хапае добрай аналітыкі, даследаванняў. Таму што выразны і бесстаронні аналіз рэчаіснасці – аснова любой кіраўніцкай дзейнасці.*

*Што тычыцца палітыкі, то я ўжо даўно ёй не займаюся. Не бачу ў гэтым перспектывы,* – сказаў Генадзь Віктаравіч «Народнай Волі». – *Ды і ўзрост салідны – у наступным годзе споўніцца семдзесят. Аб палітычнай кар'еры думаць позна... Сёння мне падабаецца працаваць з моладдзю. Спадзяюся, ім спатрэбіцца мой досвед...»*

### З асабістай справы



Генадзь Цярэня нарадзіўся 9 мая 1948 г. у вёсцы Стайкі Аршанскага раёна. У 1967-м скончыў тэхнікум чыгуначнага транспарту і на працягу некалькіх гадоў працаваў у розных структурных падраздзяленнях Беларускай чыгункі. У 1974 годзе быў камандзіраваны для праходжання службы ў органах унутраных спраў.

Вучыўся на філасофскім факультэце БДУ, у Мінскай вышэйшай школе міліцыі МУС СССР, Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Працаваў у аддзеле спецперавозак, арганізацыйна-інспектарскім упраўленні, групе галоўных інспектараў штаба МУС БССР. Кіраваў Галоўным упраўленнем па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю МУС.

Быў намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

РЭГІСТРАТУРА

# У кожнага другога медыка – стрэс

Цікавае сацыялагічнае даследаванне правялі супрацоўнікі Магілёўскага абласнога цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя.

У анкетаванні ўдзельнічалі 1600 прадстаўнікоў арганізацый аховы здароўя вобласці, з якіх палова – сярэдні медперсанал, каля 40% – урачы, астатнія – кіраўнікі медустаноў.

Што высветлілася: кожны другі медык часта перажывае псіхаэмацыянальны стрэс на працы. Прычым сацыёлагі адзначылі такую заканамернасць: чым вышэй пасада медыка, тым больш ён адчувае стрэсаў на працы.

Яшчэ цікавы факт. Добрым сваё здароўе лічаць 18% апытаных, «хутчэй добрым» – 17%, здавальняючым – 55%. Астатнія ўказалі на няважнае самаадчуванне (у асноўным гэта медыкі старэйшыя за 40 гадоў).

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ПАЛІТКУХНЯ

Ніна СТУЖЫНСКАЯ:

# «Мы пойдзем на выбары»



*На мінулым тыдні ў Мінску адбылося першае пасяджэнне аргкамітэта па стварэнні партыі «Жаночая альтэрнатыва». Сустаршынямі сталі **Ніна Стужынская** і **Валянціна Болбат.** Як аказалася, у стваральніц жаночай партыі вялікія планы. Аб некаторых з іх «Народнай Волі» распавяла кандыдат гістарычных навук Ніна Стужынская.*

**– Ніна Іванаўна, сёння існуе шмат розных аргкамітэтаў, але партыю стварыць за апошнія дзесяцігоддзі ні ў кога не атрымалася...**

– Мы разлічваем на працягу года зрабіць усё неабходнае для гэтага, сабраць увесь рэсурс. А атрымаецца ці не – паглядзім!

Дарэчы, «Жаночая альтэрнатыва» – пакуль умоўнае імя нашай будучай партыі, канчатковую назву зацвердзіць устаноўчы з'езд.

**– Для рэгістрацыі партыі патрэбна 1000 чалавек...**

– Зашмат, вядома, але, думаю, нам гэта будзе па сілах. Я вельмі спадзяюся, што менавіта наша арганізацыя прыцягне ў палітычны працэс не ангажаваных раней жанчын. Бачыце, што паказала гэтая вясна? Шмат жанчын, якія раней былі не знаёмыя ні з апазіцыйнымі партыямі, ні з палітыкамі, проста выйшлі на вуліцу на акцыі пратэсту. Таму што жыццё дастала! Маленькія зарплаты, беспрацоўе, цяжкасці ў сям'і... Думаю, усе гэтыя жанчыны цалкам могуць далучыцца да нашых шэрагаў. А пакуль ядром нашай партыі будуць актывісткі сацыял-дэмакратычнай партыі, усе мае калегі, сябры.

**– Шчыра кажучы, некаторыя палітыкі чамусьці скептычна глядзяць на вашу ініцыятыву...**

– Таму што гультаяватыя! Вельмі проста сядзець на канапе і перабіраць костачкі ўсім запар. Я не звяртаю на гэта ўвагі.

Дарэчы, у свой час адной з самых вядомых партый была жаночая – «Надзея». Відавочна, што сёння ў палітыцы не хапае менавіта жаночага голасу. Напрыклад, мы ўсе прыслухоўваемся да таго, што кажа Святлана Алексіевіч. Я часам думаю: калі б яна нават проста намякнула, што ў яе ёсць палітычныя амбіцыі, для многіх нашых людзей гэта было б як свята ў акенцы! Бо ўся яе літаратура – гэта поўнае разуменне сітуацыі ў краіне, праблем людзей. Яна выдатна ведае, як жыве народ. І ў Алексіевіч, акрамя ўсяго іншага, вельмі шмат спагады да людзей. Мне здаецца, яшчэ ніхто з нашых палітыкаў не пашкадаваў і не паспачуваў нашым людзям. Усе прывыклі толькі выкарыстоўваць людзей.

**– Ніна Іванаўна, а што з нагоды маючых адбыцца выбараў скажаце? Будзеце балатавацца?**

– Так, будзем браць самы актыўны ўдзел у мясцовых выбарах і ўсіх наступных кампаніях. Мне падаецца, нават добра, што партыя арганізоўваецца напярэдадні мясцовых выбараў. Гэта кампанія стане добрым стартам для нас.

Жаночыя ініцыятывы, як правіла, рэалізуюцца ў самыя цяжкія для краіны часы. Так, у 1918 годзе паўстала першая жаночая арганізацыя, якую арганізавала выбітны палітык Палута Бадунова і назвала яе імем іншай бліскучай беларускі – Алаізы Пашкевіч. Я думаю, у наступным годзе мы гэтую дату абавязкова адзначым.

**– Вы выдатна ведаеце, як у нас праходзяць выбары. І ўсё роўна пойдзеце?**

– Так! Выбары патрэбны, каб трымаць партыю ў тонусе. Выбарчыя кампаніі даюць магчымасць убачыць праблемы, пачуць людзей, прапанаваць ім свае рэцэпты і рашэнні. Гэта магчымасць паказаць, што ў партыі ёсць годныя асобы, за якімі варта ісці.

Наогул, акрамя палітычнай актыўнасці наша галоўная задача – рабіць акцэнт на тым, што хвалюе жанчын. Для любой жанчыны ў першую чаргу важны свой дом, сямейны ачаг, а для партый у прыярытэце – нацыянальны дом. Таму дзве нашы галоўныя мэты – бяспека і дабрабыт. І для краіны, і для сям'і.

**– Хто з вядомых жанчын падтрымае вашу партыю?**

– Цяжка сказаць. У нас наогул грамадзянская салідарнасць – паняцце адноснае, а жаночая – тым больш. Але я лічу, што нас падтрымаюць аднадумцы, жанчыны, якія разумеюць вастрыню моманту і падзяляюць праграму партыі. Нічога такога нежыццёвага мы не прапануем. Напрыклад, у самы бліжэйшы час мы стартуем з праектам «Разам супраць раку малочнай залозы».

Мы выступаем за бязлітасныя меры супраць распаўсюджвання алкагалізму і наркаманіі, за прынцыпы закона, накіраванага на прадухіленне хатняга гвалту, за паляпшэнне якасці дзяржаўнага медыцынскага абслугоўвання, за рэалізацыю на дзяржаўным узроўні праграмы эканамічнай бяспекі жанчын і прыняцце спецыяльных мер па прадухіленні беднасці беларускіх сем'яў, за рэальнае забеспячэнне права на роўную аплату пры роўнай працы і рэальную магчымасць кар'ернага росту, за ўвядзенне ў практыку дэмакратычнага конкурснага адбору на кіруючыя пасады.

**– Не сакрэт, што сёння да апазіцыйных партый і іх лідараў неадназначнае стаўленне. «Героі без… перамог», як напісаў нядаўна на старонках "Народнай Волі" адзін з нашых аўтараў...**

– Не думаю, што і да нас будзе такое стаўленне. Я бачу партыю як інструмент для перамен. Веру ў садружнасць людзей, аднадумцаў. І я ведаю, што актыўная меншасць можа перамагчы там, дзе большасць пасіўная...

ПЫТАННЕ Ў ЛОБ

Валянціна БОЛБАТ:

## «Я мушу сысці...»



*Сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі "Жаночая альтэрнатыва" **Валянціна Болбат** – сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Грамада", якой кіруе **Ірына Вештард**. "Народная Воля" пацікавілася, ці застанецца Болбат сябрам адразу дзвюх партый.*

– Канешне, я не маю права быць у дзвюх партыях і мушу сысці з БСДП, – *адказала Валянціна Васільеўна.* – Я зрабіла свой выбар. Прычым гэта рашэнне было для мяне вельмі няпростым. Але я не бачу сябе сярод тых людзей, якія сёння кіруюць БСДП "Грамада". На жаль, сёння там не чуюць тых, хто дазваляе сабе нейкую крытыку. А я хачу працаваць, у мяне ёсць ідэі, і цяпер будзе магчымасць іх рэалізаваць. Разумею, што будзе няпроста, але мы падрыхтаваныя і загартаваныя!

**Марына КОКТЫШ.**



ПРИНЦИПИАЛЬНЫЙ ВОПРОС

# Как понимать Гайдукевичей?

Всем известно, что в Беларуси Либерально-демократическая партия, возглавляемая С.Гайдукевичем, – это как в России партия, бессрочно руководимая политическим клоуном В.Жириновским. Одна и другая, как ходит молва, созданы для выполнения определенных задач. Вот, скажите, как относиться к тому, что еще в конце минувшего года пресс-служба ЛДПБ разослала во многие редакции такое сообщение: Высший Совет и Центральный комитет (какие названия!) Либерально-демократической партии приняли решение инициировать проведение в 2018 году одновременно с выборами депутатов в местные Советы республиканского референдума по внесению в Конституцию ряда изменений? Не кажется ли вам, уважаемые читатели, что Гайдукевичу-отцу и Гайдукевичу-сыну, которые в партии занимают две высшие должности, поступил очередной спецзаказ: исподволь готовить электорат к очень важной политической кампании?

Тогда, в ноябре 2016 года, только некоторые средства массовой информации клюнули на удочку белорусских «жириновцев». Остальные сделали вид, что заявление ЛДПБ – это очередной самопиар, стоит ли обращать внимание? Может, и не стоило бы, не будь в заявлении такого пункта: «**увеличить срок полномочий Президента Республики Беларусь с 5 до 7 лет».**

Знаем, по закону очередные президентские выборы должны состояться в 2020 году. Если до этого времени через референдум срок полномочий первого лица государства будет продлен с пяти до семи лет, то получит ли нынешний президент возможность править страной без перевыборов до 2022 года?

Вопрос принципиальный, особенно если учесть, что А.Г.Лукашенко и так уже находится в кресле президента более 20 лет (с 1994 года).

Чтобы прояснить ситуацию, «Народная Воля» обратилась к Гайдукевичу-младшему с конкретным вопросом: «Если на референдум будет вынесен вопрос в той редакции, как вы его сформулировали, то Александр Лукашенко может получить дополнительно два года для управления страной. Не кажется ли вам, что инициатива партии будет иметь смысл лишь тогда, когда в Конституцию возвратится норма, что одно и то же лицо может быть Президентом Республики Беларусь не более двух сроков?»

## Олег ГАЙДУКЕВИЧ, первый заместитель председателя Либерально-демократической партии Беларуси:



– Мы никогда не выступали за увеличение срока президентских полномочий. Мы категорически против того, чтобы на референдум выносился отдельно этот один конкретный вопрос. Ничего хорошего от этого не будет, и ничего в стране не изменится. Мы выступаем за конституционную реформу органов власти. В чем она заключается?

На наш взгляд, в каждой области, в каждом районе должны быть представители оппозиционных партий и движений. Мы должны перейти на выборы депутатов всех уровней по пропорционально-мажоритарной системе, депутаты должны наконец-то избираться и по политическим спискам. Иначе никакого движения вперед в стране не будет. А так мэр любого города будет знать, что в местном парламенте сидят оппозиционеры и они спросят с него за его работу.

**– Я спрашиваю не о выборах по партийным спискам, а о вашей инициативе увеличить срок полномочий президента…**

– А это все взаимосвязано. Реформа политической системы должна быть комплексной. Когда возрастет роль парламента, роль президента несколько снизится. И тогда можно говорить об увеличении срока полномочий и депутатов, и сенаторов, и президента. Зачем часто проводить избирательные кампании? Но с чем я согласен: безусловно, проводя эту реформу, нужно смотреть и на то, чтобы президентство было ограничено двумя сроками.

**– Но в ваших предложениях об этом ни слова...**

– Но наша партия и не будет определять вопросы референдума. Мы просто вынесли свои вопросы на общественное обсуждение. Мы не делали из этого никакого пиара, не стали формировать инициативную группу и собирать подписи за проведение референдума. Потому что прекрасно знаем: пока не будет политического решения руководства страны, политической элиты – ничего не будет.

Мы не говорим, что наш вариант – самый лучший. Но хотим, чтобы этот вопрос обсуждался. Уже и президент стал говорить о том, что нужно реформировать страну, думать о том, что будет через 5, 10 лет.

**– Но даже он не говорил об увеличении срока президентских полномочий…**

– Но он говорил, что время требует чего-то нового. И на самом деле есть два пути развития. Революционный: митинги, протесты, требование отставки, что предлагают некоторые оппозиционеры. Но при насилии ничего хорошего не будет. Лучше идти по второму пути: всем вместе выработать одно решение и внести поправки в Конституцию. Но то, какие вопросы выносить на референдум по изменениям в Основной закон, может и должна решать не только наша партия, но и парламент, сенат, президент. Главное, чтобы этот вариант дал движение нашей стране вперед. И что касается президентских полномочий, то среди вопросов на этом референдуме может быть и вопрос, касающийся того, чтобы вернуть в Конституцию норму об ограничении одному и тому же человеку занимать президентский пост более двух сроков.

**– То есть отменить это положение вы предлагаете тем, кто, по сути, инициировал его в 2004 году?**

– Мы говорим о комплексной реформе страны, о том, как двигаться дальше. Когда в 2004 году вносились поправки в Основной закон и эту норму убирали, мы это поддержали. Тогда время было такое. Сейчас – иное, появились новые проблемы, вызовы. Но какие конечные вопросы будут выноситься на референдум – от нас не зависит. Мы можем предлагать только свой вариант, что и сделали.

***

Вот такой разговор состоялся с О.Гайдукевичем. Не знаем, какой вывод сделаете из него вы, уважаемые читатели, но мы, честно говоря, так ничего и не поняли. А потому решили сканировать заявление ЛДПБ – читайте и выводы делайте сами.

**Мария ЭЙСМОНТ.**



ЛИБЕРАЛЬНО-ДЕМОКРАТИЧЕСКАЯ ПАРТИЯ

ВЫСШИЙ СОВЕТ 223042, Республика Беларусь, Минский район, Семково, ул.Садовая, 89 тел.+375 17 299 97 70, +375 17 299 90 61, www.ldpb.net, www.ldpb.by, e-mail: ldpb@rambler.ru

№ от

ЗАЯВЛЕНИЕ
Высшего Совета и Центрального комитета
Либерально-демократической партии

23 ноября 2016 года состоялось заседания Высшего Совета и Центрального комитета Либерально-демократической партии с участием руководителей всех партийных региональных структур.

Пользуясь своим представительством в Совете Республики и Палате представителей Национального собрания Республики Беларусь, принято решение инициировать проведение в 2018 году одновременно с выборами депутатов в местные Советы депутатов Республики Беларусь республиканского референдума по изменению Конституции по следующим вопросам:

1. перейти на выборы депутатов всех уровней по пропорционально-мажоритарной системе;
2. увеличить срок полномочий членов Совета Республики, депутатов Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь и депутатов местных Советов депутатов с 4 до 5 лет;
3. увеличить срок полномочий Президента Республики Беларусь с 5 до 7 лет.

Данные изменения позволят укрепить политическую систему Республики Беларусь, приведут к дальнейшей демократизации и развитию гражданского общества, и укреплению власти в стране.

Пресс-служба ЛДПБ

ПРЭС-ТУР








# Хойнікі не паміраюць…

### Заробак Аксаны – 700 рублёў у месяц

Фермерская гаспадарка "Родны шлях" мае ў Хойніцкім раёне добрую рэпутацыю. Узначальвае яе Мікалай Чубянок. Родам ён з гэтых мясцін, але некаторы час жыў у Мінску. Пазней вырашыў вярнуцца і заняцца сваёй справай.

– *Старшыня райвыканкама прапанаваў мне адкрыць фермерскую гаспадарку,* – распавядае **Мікалай Чубянок.** – *Не доўга думаючы, я пагадзіўся.*

"Родны шлях" М.Чубянка знаходзіцца недалёка ад мяжы з Палескім радыяцыйна-экалагічным запаведнікам.

Малако прадпрымальнік здае на завод "Палескія сыры", які ўваходзіць у склад ААТ "Мілкавіта". Закупачная цана на яго ў Гомельскай вобласці на 10 працэнтаў вышэй, чым у цэлым па краіне, і гэта з'яўляецца пэўным стымулам.

Сёння на прыватнай ферме больш за сотню жывёлін, сорак з іх – дойныя каровы.

У гаспадарцы працуе 15 чалавек. У будучым прадпрымальнік плануе пашыраць справу і адкрываць новыя працоўныя месцы.

Аксана – адзіная даярка на ферме. Прызнаецца, што ў памагатых не мае патрэбы, а штодня здае на завод каля 650 літраў малака.

– На зарплату не скарджуся, 700 рублёў атрымліваецца, – кажа Аксана. – Усё з нашым малаком нармальна, ужываем самі, купляюць людзі…

### Любяць расіяне «Палескія сыры»

Філіял «Палескія сыры» з'яўляецца адным з галоўных прадпрыемстваў Хойнікаў. Сёння тут працуе 247 чалавек, якія і займаюцца перапрацоўкай малочнай прадукцыі. У суткі на заводзе выпускаюць каля 25 тон сухой сыроваткі і 12–14 тон сыроў розных відаў. Сярэдні заробак, паводле слоў кіраўніцтва, складае 652 рублі.

Сам завод пабудавалі ў 1984 годзе, але праз два гады ў яго работу былі ўнесены змены.

– *Калі сёння ў горадзе працуе 6 сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, то ў 1986 годзе іх было 24,* – расказвае намеснік старшыні Хойніцкага райвыканкама **Жанна Чарняўская.** – *Тое ж самае і па будаўнічых прадпрыемствах: было 6 арганізацый, а цяпер працуе толькі адзін філіял.*

З-за аварыі на атамнай станцыі на заводзе спынілі вытворчасць сыроў, але прадпрыемства закрываць не сталі. Перапрафілявалі пад выпуск тэхнічнага казеіну. Працу над сырамі аднавілі толькі ў 2000 годзе.

– *Нягледзячы на такую гісторыю, наша прадпрыемства лічыцца перспектыўным,* – кажа інжынер па якасці Палескага вытворчага ўчастка ААТ «Мілкавіта» **Ганна Вяргейчык.** – *Імпартнае аўтаматызаванае абсталяванне ў нас абслугоўваюць маладыя кадры.*

У 2004 годзе з дапамогай МАГАТЭ (Міжнароднае агенцтва па атамнай энергіі) на прадпрыемстве была абсталявана радыелагічная лабараторыя, якая дазваляе праводзіць паўнавартасныя аналізы прадукцыі. Як тлумачаць спецыялісты, на заводзе дзейнічае патройны ўзровень праверкі на радыенукліды.

– *80 працэнтаў нашай прадукцыі ідзе на экспарт у Расію,* – кажа дырэктар прадпрыемства ў Хойніках **Альберт Дрэвіла.** – *Нас ніколі не закрывалі для паставак. Да праверкі малака мы ставімся вельмі сур'ёзна.*

Паводле слоў кіраўніцтва Хойнікаў, сёння прадукцыя прадпрыемства нічым не адрозніваецца ад аналагічных вытворчасцяў з іншых рэгіёнаў. І калі ў першыя гады работы пасля аварыі на ЧАЭС якасць яе выклікала сумненні, то зараз такога няма.

– *У нас было праведзена паразалужэнне многіх угоддзяў,* – кажа Жанна Чарняўская. – *Пасля гэтага ад выпасу жывёлы практычна ва ўсіх гаспадарках адмовіліся, каровы знаходзяцца на стойлавым утрыманні. Штогод у кожным сельгаспрадпрыемстве рэспубліканскімі службамі адбіраюцца пробы грунту. Паколькі ў нас патройны кантроль прадукцыі, то людзі бачаць, што якасць яе адпавядае усім нормам.*

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

**Фота аўтара.**

*Хойніцкі раён.*

ЧУЛІ?

# У Расію – праз памежны кантроль

*З 15 мая Расія пераводзіць усе авіярэйсы з Беларусі ў міжнародныя сектары расійскіх аэрапортаў.*

Пра гэта паведаміла РІА "Новости" са спасылкай на дзяржсакратара Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі Рыгора Рапоту.

Паводле яго слоў, пагранічны кантроль грамадзян Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь, якія карыстаюцца гэтымі рэйсамі, ажыццяўляцца не будзе, яны па-ранейшаму змогуць перасякаць мяжу па ўнутраных пашпартах. Адзіным змяненнем для іх стане неабходнасць захоўваць пасадачны талон, які трэба будзе прад'яўляць па прыбыцці ў Расію. *"Адзнакі аб перасячэнні мяжы ў пашпарце прастаўляць не будуць"*, – удакладніў Рапота.

БелаПАН.

ЗАКУЛИСЬЕ



# Старший сын Ирины Абельской готовится к защите кандидатской

*Защита диссертации **Дмитрия Абельского** состоится 6 июня в Белорусской медицинской академии последипломного образования. Тема его научного труда – "Хирургическое лечение миопии и миопического астигматизма методом фемто-ЛАСИК с использованием данных аберрометрии".*

Дмитрий Абельский – старший сын главного врача Республиканского клинического медцентра управления делами президента **Ирины Абельской**.

Дмитрий Абельский – врач-офтальмолог высшей квалификационной категории, старший преподаватель кафедры офтальмологии Белорусской медицинской академии последипломного образования. С отличием закончил лечебный факультет Белорусского государственного медицинского университета. Прошел обучение в аспирантуре по офтальмологии на базе БелМАПО, окончил сертификационные курсы по лазерным методам лечения в офтальмологии при ФГАУ МНТК «Микрохирургия глаза» МЗ РФ. Дмитрий – действительный член Российского и Европейского обществ катарактальных и рефракционных хирургов. Он выполняет лазерные высокотехнологичные операции.

Как говорят в БелМАПО, Дмитрий Абельский *«подготовил ряд лекций, включенных в педагогический процесс на кафедре, как по общей офтальмологии, так и по передовым современным направлениям лечения офтальмологической патологии».*

Дмитрий руководит научным отделом Совета молодых ученых.

Одноклассники Дмитрия Абельского по лицею БГУ отзываются о нем исключительно позитивно.

*"Он учился в нашем классе, как и младшая дочка экс-ректора БГУ Александра Козулина,* – рассказал «Народной Воле» один из его одноклассников. – *Дима – хороший товарищ. Наверное, это один из тех редких случаев, когда я могу сказать про человека только хорошее. И если бы дети гораздо менее высокопоставленных лиц вели себя так, как Дмитрий, то в этой стране давно все было бы хорошо. Дмитрий в 11-м классе перешел из исторического класса в химико-биологический, чтобы поступить на бюджет в Медицинский университет. Ни разу не было у меня причины, чтобы сказать, что Дима Абельский – парень из золотой молодежи».*

Дмитрий Абельский писал кандидатскую под руководством доктора медицинских наук, профессора **Татьяны Имшенецкой**. Официальными оппонентами выступают доктор медицинских наук, директор государственного научного учреждения «Институт физиологии НАН Беларуси» **Иосиф Залуцкий** и доктор медицинских наук, профессор, врач-офтальмолог общества с ограниченной ответственностью «МедВайз» **Николай Позняк**, в качестве оппонирующей организации выступает Гомельский государственный медицинский университет.

